www.nv-online.info

№ 92 (3833)

22 лістапада 2013 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай
і рускай мовах

Выдавец: УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

# Народная Воля

*На прастор, на шырокі разлог*
*Выхадзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**

*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

*Падпіска на «Народную Волю» на першую палову 2014 года працягваецца.*

ПРЯМАЯ РЕЧЬ

# Сенсационное интервью Владимира Макея

*Навеки ли Беларусь связана с Россией? Глава МИД Беларуси Владимир Макей не исключает, что Минск может сделать поворот на 180 градусов и начать интеграцию с Евросоюзом.*

Интервью министра иностранных дел Беларуси **Владимира МАКЕЯ** ежедневному польскому изданию Dziennik Gazeta Prawna читайте на 2-й стр.



ДАСЛОЎНА

## Ежы БУЗЕК, былы кіраўнік Еўрапарламента:



— Калі я быў старшынёй Еўрапейскага парламента цягам двух з паловай гадоў, меў рознага роду планы. І магу сказаць, што большасць з іх выкананы. Размова ідзе пра агульны рынак энергіі ў Еўрасаюзе, пра супрацоўніцтва з суседзямі ЕС, пра варты бюджэт. Адзінае, што не спраўдзілася і было для мяне вельмі важным, — гэта тое, што сітуацыя ў Беларусі не змянілася ў бок дэмакратыі, вольнага рынку, прынцыпаў цывілізаванага свету. Гэтага не атрымалася. Але я ўпэўнены, што гэта адбудзецца.

ПАСТСКРЫПТУМ

## Тэрміновы рэйс

Аляксандр Лукашэнка правёў два дні ў Баку, хаця, заўважым, зусім нядаўна сустракаўся з кіраўніком Азербайджана Ільхамам Аліевым у Мінску.

Што стала прычынай тэрміновай паездкі, застаецца толькі здагадвацца. Афіцыйна вядома, што прэзідэнты абедзвюх краін прынялі ўдзел у адкрыцці новага будынка беларускага пасольства, хаця наўрад ці дзеля гэтага трэба было гнаць самалёт з дэлегацыяй за тысячы кіламетраў. Праўда, з гісторыі беларуска-азербайджанскіх адносін вядома, што Ільхам Аліеў — той самы прэзідэнт, які час ад часу можа пазычыць беларускаму калегу пару соцень мільёнаў долараў. Таму, па неафіцыйнай версіі, прычынай візіту маглі з'явіцца менавіта грошы.

Што ж да афіцыйнай часткі, то ні пра якія прарывы ў беларуска-азербайджанскіх адносінах не паведамляецца. Падпісаныя пагадненні — аб супрацоўніцтве ў сферы адукацыі, метралогіі і гэтак далей — звычайна не патрабуюць нават прысутнасці прэзідэнтаў.

**Алена НОВІКАВА.**

ГРОМКОЕ ДЕЛО

# Домой!

*Белорусские власти приняли решение об экстрадиции гендиректора "Уралкалия" Владислава Баумгертнера в Россию.*

Об этом "Интерфаксу" сообщил представитель Генеральной прокуратуры России.

По его словам, "в ближайшее время Баумгертнер будет передан представителям российских правоохранительных органов".

Собеседник агентства уточнил, что решение о выдаче по требованию Генеральной прокуратуры России гражданина РФ Владислава Баумгертнера белорусские коллеги приняли накануне.

Напомним, что гендиректор "Уралкалия" обвиняется в совершении преступлений, предусмотренных ч.3 ст.33, ч.2 ст.201 УК РФ, а именно в том, что, "являясь лицом, выполняющим управленческие функции в коммерческой организации, использовал свои полномочия вопреки законным интересам этой организации и в целях извлечения выгод и преимуществ для себя и других лиц, что повлекло тяжкие последствия".

Президент России Владимир Путин громких заявлений по этому делу не делал, однако сообщил, что российские власти пытаются решить ситуацию тихо, чтобы не загнать ее в тупик. Надо понимать, тактика сработала.

**Олег СНОВ.**

### КОГДА ВЕРСТАЛСЯ НОМЕР

**О том, где находится Владислав Баумгертнер — еще в Минске или уже в Москве, вчера почти целый день не было никакой информации. Адвокаты даже не знали, что решение об экстрадиции принято. И только во второй половине дня пресс-секретарь Генпрокуратуры Беларуси Петр Киселев сообщил: "Гендиректор "Уралкалия" Владислав Баумгертнер выдан России".**

СІТУАЦЫЯ

# Раскол у ЕГУ?

*Днямі ў Еўрапейскім гуманітарным універсітэце прайшлі выбары ў Сенат. У выніку галасавання большасць месцаў у галоўны орган самакіравання ВНУ атрымалі прадстаўнікі дэмакратычнай платформы "За новы ЕГУ", якая аб'ядноўвае выкладчыкаў, не згодных з палітыкай сённяшняй адміністрацыі ўніверсітэта.*

*Што гэта азначае? Супрацьстаянне новай плыні выкладчыкаў і кіраўніцтва ЕГУ? А можа, нязменны рэктар універсітэта Анатоль Міхайлаў саступіць сваё месца камусьці іншаму? За каментарыем мы звярнуліся да аднаго з прадстаўнікоў платформы — дацэнта Максіма ЖБАНКОВА.*

— Трэба разумець, што ў нармальнай акадэмічнай інстытуцыі існуе падзел улады, — тлумачыць Максім Жбанкоў. — З аднога боку, гэта адміністрацыя, менеджары, якія кіруюць бягучым працэсам. З другога — акадэмічная супольнасць, якую, у прынцыпе, і ўзначальвае Сенат. Гэтыя два полюсы ўлады мусяць існаваць і працаваць сінхронна і ў партнёрстве. Праблема ЕГУ ў тым, што гэты баланс на працягу апошніх гадоў быў парушаны. У нас існаваў адміністрацыйны аўтарытарызм. То бок адміністрацыя фактычна адсунула праз серыю паправак у Статут універсітэта Сенат ад уплыву на стратэгічныя рухі інстытуцыі. І ўсё тое, што адбылося падчас выбараў у Сенат, — гэта была спроба аднавіць баланс паміж гэтымі дзвюма кіруючымі структурамі.

Можна сказаць, што вынікі выбараў атрымаліся пазітыўныя. Ініцыятывы дэмакратычнай платформы падтрымала грамадская супольнасць універсітэта. Мы атрымалі сур'ёзны крэдыт даверу.

**— Што зараз будзе ўяўляць сабой Сенат? Праадміністратарскую пазіцыю ён не можа заняць?**

— У Сенат прайшло 12 прадстаўнікоў дэмакратычнай платформы, 4 студэнты, прадстаўнік даследчых цэнтраў, рэктар і яшчэ два выкладчыкі. 100%-най прысутнасці нашых прыхільнікаў у Сенаце няма, але, думаю, будзе нармальная парламенцкая праца, будзе кааперацыя, будзе аб'яднанне вакол канкрэтных інтарэсаў, будуць перамовы.

**— Ці вынікае з гэтага, што адміністрацыя мусіць сысці, што рэктар Міхайлаў саступіць сваё месца?**

— Натуральна, не. Мы не за тое, каб прыбраць адміністрацыю, мы за тое, каб яна працавала ў партнёрстве з Сенатам і акадэмічнай супольнасцю. Гэта, дарэчы, абсалютна нармальная з'ява ва ўсіх еўрапейскіх інстытуцыях, у нас жа за гэтае права даводзіцца змагацца.

Зараз, пасля выбараў, варта думаць, якія ў Сената будуць стасункі з адміністрацыяй. Пакуль відавочна, што яна не будзе на нашым баку. Прыйдзецца зноў весці перамовы, агучваць свае аргументы. Але галоўнае, што побач з адміністрацыяй з'явілася легітымная структура, якая мае таксама пэўныя магчымасці і будзе змагацца за тое, каб прыбраць з універсітэцкага жыцця тое, што перашкаджае сёння ЕГУ нармальна развівацца і існаваць.

**— Максім, скажыце, калі ласка, сёння ЕГУ папулярны ўніверсітэт? Конкурсы пры паступленні высокія? Дэфіцыту студэнтаў няма?**

— Абсалютна арыфметычна колькасць студэнтаў не павялічваецца. На гэта ўплываюць некалькі фактараў — і суб'ектыўных, і аб'ектыўных. З аб'ектыўных — тое, што мы трапілі ў дэмаграфічную яму, колькасць патэнцыяльных студэнтаў у прынцыпе скарачаецца. З другога боку, зразумела, што сістэма рэкрутынгу ЕГУ недасканалая, яна неэфектыўна працуе. І гэта адно з пытанняў да адміністрацыі, якая мусіць гэтым займацца.

Таксама, я думаю, не надта спрыяе павышэнню колькасці абітурыентаў той факт, што шмат хто ў кіраўніцтве ЕГУ не разумее, у якім накірунку будзе рухацца ЕГУ. Гэта беларускі ўніверсітэт? Літоўскі? Ці гэта нейкая рэгіянальная структура? Трэба высвятляць пазіцыі. І гэта адна з мэт дэмакратычнай платформы — вярнуць праекту ЕГУ яго першапачатковы сэнс беларускай гуманітарнай ВНУ з еўрапейскай якасцю адукацыі і навуковай працы. Мы за тое, каб ЕГУ больш эфектыўна працаваў на карысць Беларусі.

**Вольга ГРЫНЯВІЦКАЯ.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

## Кватэры давялі да камеры

*У Магілёве працягваецца судовы працэс над былымі кіраўнікамі Гомеля. Суд над былым старшынёй Гомельскага гарвыканкама Віктарам Піліпцом і некалькімі чыноўнікамі ўпраўлення капітальнага будаўніцтва выканкама спецыяльна праводзіцца не на месцы здзяйснення злачынства, а ў іншым абласным цэнтры.*

Папярэднае следства было завершана яшчэ ў маі, але суд распачаўся толькі зараз у Магілёўскім абласным судзе. Нагадаем: былога кіраўніка Гомельскага гарвыканкама Віктара Піліпца арыштавалі ў верасні 2012 года. Напярэдадні арышту ён пакінуў высокую пасаду. І ўжо тады па горадзе пайшлі чуткі пра яго магчымы арышт. Абвінавацілі чыноўніка ў тым, што з верасня па кастрычнік 2011 года ён разам з супрацоўнікамі УКБ Гомельскага гарвыканкама незаконна размяркоўваў сярод сваякоў і знаёмых кватэры па значна заніжаных коштах. Кватэры ж гэтыя павінны былі атрымаць людзі, чыё жыллё трапляла пад знос.

Тады ж, у верасні, Аляксандр Лукашэнка патлумачыў прычыну затрымання Піліпца: *"Некаторыя чыноўнікі, як гэта здарылася ў Гомелі, бралі дзясяткамі кватэры і перапрадавалі, а грошы клалі сабе ў кішэню. Сёння крымінальная справа заведзена, і не адзін чыноўнік са сваімі сваякамі і набліжанымі сядуць на лаву падсудных".*

Скандал ударыў і па галоўным інспектары па Гомельскай вобласці Ігару Пракапенку. Спачатку яго знялі з пасады, а потым — з выбараў у Палату прадстаўнікоў. З-за гэтага ў Гомельскай-Навабеліцкай акрузе не адбыліся выбары, бо ён быў адзіным кандыдатам.

Вядзе працэс суддзя Сяргей Конеў, абвінаваўца — супрацоўнік пракуратуры Кічыгін. Судовыя пасяджэнні праходзяць у адкрытым рэжыме. Трымаецца былы кіраўнік Гомеля ўпэўнена, актыўна задае пытанні былым падначаленым. Падтрымаць яго на працэс, як правіла, прыязджаюць і родныя.

Па афіцыйнай інфармацыі, урон, які быў нанесены бюджэту дзеяннямі Піліпца, склаў 3,8 мільярда рублёў. Кватэры дзяржаве вярнулі. Былому высокапастаўленаму чыноўніку пагражае зняволенне да 10 гадоў.

**Любоў ЛУНЁВА.**



З НАГОДЫ

# Пастух і авечкі

*"Звычайныя людзі... У цэлым нагадваюць папярэдніх... Кватэрнае пытанне толькі іх сапсавала..."* — казаў булгакаўскі герой, назіраючы за масквічамі 30-х гадоў мінулага стагоддзя.

*"Звычайныя людзі, у цэлым нагадваюць папярэдніх,* — кажуць сёння і прадстаўнікі беларускай улады. — *Валютнае пытанне толькі іх сапсавала".*

І не проста сапсавала, а "народзец", які купляе валюту, аказваецца, сам і вядзе краіну па шляху дэвальвацыі.

*"Калі вы будзеце бегаць з раніцы да вечара па абменных пунктах і скупляць валюту, калі суб'екты гаспадарання і банкі будуць спаць і бачыць, што пройдзе дэвальвацыя, нехта на гэтым выйграе, будуць спараджацца чаканні, а нашы негадзяі, "свядомыя", якія "плявузгаюць" языкамі ва ўсіх СМІ, народ будуць падаграваць, а вы будзеце іх слухаць і зноў бегчы ў абменнікі, — Гасподзь вам у шлях, значыць, вы самі прывядзеце да таго, што аслабіце нацыянальную валюту",* — заявіў 28 верасня гэтага года Аляксандр Лукашэнка.

Але што за народ?! Усё роўна бегае і скупляе. Па звестках Нацбанка, чыстая пакупка наяўнай і безнаяўнай замежнай валюты з боку насельніцтва ў кастрычніку склала амаль 380 мільёнаў долараў. Больш, чым у верасні, калі такая пакупка склала крыху больш за 330 мільёнаў долараў. У жніўні — менш за 170 мільёнаў долараў. І пяць месяцаў запар насельніцтва купляе валюты больш, чым прадае. Чаму? Звернемся да гістарычных фактаў.

**Снежань 2008 г. Аляксандр Лукашэнка (падчас сустрэчы з прадстаўнікамі СМІ):**



*"Мы народу абяцалі 2200 на гэты год. Нацбанк учора аб'явіў: мы дасягнулі 2200. Усё! Нельга больш, мы народу абяцалі. Прыйдзе Новы год, 5 працэнтаў — гэта нішто! Вось з 2200 вазьміце 5 працэнтаў, колькі гэта будзе?.. Што, гэта вялікая сума для нашых людзей?"*

Акурат пасля Новага года, 1 студзеня 2009 года, беларускі рубель дэвальвіраваўся на 20,5 працэнта. Як кажуць: з Новым годам, з новым "шчасцем"!

**12 лістапада 2010 г. Аляксандр Лукашэнка (падчас сустрэчы з жыхарамі Барысава):**

*"Ніякай дэвальвацыі мы не плануем. Гам вакол дэвальвацыі паднялі шарлатаны, якія рвуцца ў прэзідэнты... Будзьце асцярожны з доларам, я вас папярэдзіў. Майце на ўвазе, што вы можаце згубіць на гэтым долары. Усе скідваюць долар, а вы яго скупляеце. Вы самі сабе зробіце дэвальвацыю, калі будзеце скупляць валюту".*

**15 сакавіка 2011 г. Афіцыйная заява Нацыянальнага банка Беларусі:**

*"У сувязі са з'яўленнем у апошні час правакацыйных чутак аб магчымай рэзкай дэвальвацыі нацыянальнай валюты, якія атрымалі шырокае распаўсюджванне дзякуючы асобным СМІ і сетцы інтэрнэт, Нацыянальны банк паведамляе, што гэтыя чуткі ніякім чынам не адпавядаюць рэальнасці. Змяненні абменнага курса беларускага рубля, якія выходзяць за межы параметраў, што ўстаноўлены Асноўнымі накірункамі грашова-крэдытнай палітыкі Рэспублікі Беларусь, не плануюцца і праводзіцца не будуць".*

Праз некалькі месяцаў беларускі рубель абясцэніўся амаль у тры разы, а разам з гэтым "згарэлі" і грошы тых, хто даверыўся высокім словам высокіх чыноўнікаў.

Праўда, цяпер былы старшыня Нацбанка Пётр Пракаповіч віну сваю бачыць толькі ў тым, што пад яго кіраўніцтвам правялі разавую дэвальвацыю, а не паступовую. Але супакойвае: "Для людзей вынік быў бы адзін".

Таму мне сёння вельмі дзіўна, калі ўлада абураецца, што народ, якога і так не раз "лапухнулі", скупляе валюту. Гэта як у той гісторыі пра хлопчыка-пастуха, які пасвіў авечак ды ўсё крычаў: "Воўк! Воўк!" Сяляне прыбягалі, не бачылі ніякага воўка і ў рэшце рэшт перасталі верыць ілгуну. Што закончылася трагічна для авечкі і павучальна для таго, хто паставяння лгаў.

Апошняму людзі сказалі: "Ідзі працуй у поле, каб заплаціць і за згублены давер, і за згубленую авечку".

**Алесь СІВЫ.**

НАДВОР'Е

## Зіма на падыходзе

Зімовае надвор'е прыйдзе ў Беларусь ужо на пачатку наступнага тыдня. Пра гэта паведаміў начальнік службы гідраметэаралагічных прагнозаў Рэспубліканскага гідраметэацэнтра **Дзмітрый Рабаў.**

Як адзначыў сіноптык, кліматычная зіма звычайна прыходзіць на тэрыторыю Беларусі ў лістападзе, калі сярэдняя сутачная тэмпература паветра паніжаецца да значэнняў ніжэй 0 градусаў. *"Менавіта такой будзе сітуацыя з надвор'ем на пачатку наступнага тыдня, калі разам з паўночнымі вятрамі ў Беларусь прыйдзе прыкметнае пахаладанне",* — адзначыў Дзмітрый Рабаў.

Месцамі пройдзе кароткачасовы снег, на асобных участках дарог чакаецца галалёдзіца. Тэмпература паветра складзе ад мінус 4 да 2 градусаў цяпла, па поўначы чакаецца да мінус 7, у дзённыя гадзіны — ад мінус 3 да плюс 3 градусаў.

Згодна з папярэднім прагнозам, сярэднямесячныя тэмпературы снежня чакаюцца ў межах кліматычнай нормы, характэрнай для гэтага часу года. У цэлым па краіне тэмпература паветра будзе вагацца ад мінус 2 градусаў па паўднёвым захадзе да 5 градусаў са знакам мінус па паўночным усходзе. *"На большай частцы тэрыторыі краіны ўсталюецца снежны полаг,* — дадаў Дзмітрый Рабаў. — *А да канца першага месяца зімы яго вышыня можа дасягнуць 4—10 сантыметраў. Прычым ад 18 да 22 дзён на працягу месяца будуць снежнымі".*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 ЛІСТАПАДА 2013 г.

ПРЯМАЯ РЕЧЬ

# Сенсационное интервью Владимира Макея



**— Кто будет представлять Беларусь на начинающемся 28 ноября в Вильнюсе саммите “Восточного партнерства”?**

— Мы заинтересованы принять участие в этом саммите, а также чтобы этот саммит привел к позитивным результатам для Беларуси. Решение об уровне нашего участия в настоящее время находится на стадии обсуждения и будет оглашено в течение ближайших дней.

**— Значит, не исключено участие президента Александра Лукашенко?**

— Повторю, что решение все еще на стадии рассмотрения и зависит от решения президента Беларуси.

**— На этот раз приглашение открытое. В противоположность предыдущему саммиту ВП в Варшаве, на которое было отправлено именное приглашение предыдущему главе МИД Сергею Мартынову (Беларусь посчитала это неуважением и была представлена на уровне посла в Варшаве. — Ред.).**

— В этот раз наши европейские партнеры приняли мудрое решение. Оно соответствует Декларации “Восточного партнерства” от 2009 г., которая отмечает, что основным условием должны быть равное представительство, взаимная ответственность и сотрудничество. Я считаю, что эта инициатива может быть эффективной только тогда, когда соблюдаются все эти условия.

**— Как в этом контексте вы оцениваете слова посла Польши в Минске господина Лешека Шерепки о том, что ЕС не готов в настоящий момент к тому, чтобы Беларусь на саммите была представлена на высшем уровне?**

— Я не хотел бы комментировать эти слова. Для нас очень важны нормальные отношения с ЕС. Господин посол иногда позволяет себе экстравагантные высказывания, которые не содействуют налаживанию связей.

**— Какое значение для Беларуси имеет “Восточное партнерство”?**

— Не могу сказать, что это очень важная инициатива. Мы не видим пока от нее большой пользы. Кроме прочего, еще и потому, что по инициативе наших европейских партнеров в отличие от других стран — участниц ВП мы не принимаем участия в двусторонних проектах, а только в многостороннем сотрудничестве. Тем не менее мы считаем, что участие в ВП — дополнительный инструмент нормализации наших отношений. Более того, мы бы хотели, чтобы в рамках этой инициативы развивались конкретные проекты, которые приносили бы участникам конкретную пользу.

**— В какой конкретно сфере?**

— Мы рассчитываем на сотрудничество в области улучшения бизнес-климата, мы, кстати, сами инициировали организацию при саммите ВП бизнес-форумов. Такие форумы пройдут также и в Вильнюсе. Мы подготовили несколько предложений, касающихся транспорта, энергетики, управления границами.

**— Польша обвиняет Беларусь в снижении активности в деле обнаружения нелегальных мигрантов на белорусско-польской границе. От белорусских чиновников приходилось слышать пожелания, чтобы ЕС, со своей стороны, взял на себя часть финансирования обязанностей, связанных с охраной границ. Говоря о вопросах управления границами, вы имеете в виду то же самое?**

— Среди прочего — да. У нас очень протяженная, длиной в 1,3 тысячи километров, граница с ЕС. В случае границы с Польшей часть инфраструктуры помнит еще советские времена; также мы проводим демаркацию границы с учетом, например, изменения течения рек. Очевидно, что существует ряд проблем, связанных с нелегальным пересечением границ гражданами третьих государств. Не сказал бы, что мы смягчили пограничный режим, это неправда. Однако Беларусь берет на себя огромные финансовые обязательства, связанные с охраной границ.

Не секрет, что число мигрантов, желающих попасть в ЕС через Беларусь, быстро растет. Наш вклад в обеспечение безопасности Европы от торговцев людьми или наркотрафикеров весьма значителен. И я предложил бы пограничникам обеих сторон начать обсуждение того, как лучше обезопасить границу.

**— Какое из государств ЕС вы считаете самым предпочитаемым партнером?**

— Я не хотел бы разделять страны ЕС в зависимости от их отношения к Беларуси. У нас очень хорошие контакты с целым рядом стран ЕС. И мы хотели бы иметь нормальные политические и экономические связи со всеми соседями. С кем-то нам это удается лучше, с кем-то хуже. С Литвой и Латвией мы наладили хорошие торговые взаимоотношения. С другими государствами в последнее время диалог также значительно активизировался. И мы очень этим довольны.

**— Мне кажется, что диалог активизировался с начала нынешнего года. Вы и ваш заместитель Елена Купчина встречались со многими западными дипломатами и политиками. У меня создалось впечатление, что в последние месяцы такая динамика значительно возросла.**

— Это очень эмоциональная оценка. После введения санкций в 2011 г. наши отношения полтора-два года оставались замороженными. С тех пор как диалог возобновился, многие ожидали чуда, что многие наши проблемы тут же исчезнут. Однако жизнь такова, что на это требуется время. Диалог развивается в явном, но неформальном виде. Мы считаем, что политика санкций, давления на Минск ведет нас в тупик. И нам кажется, что и наши европейские партнеры решили изменить такую ситуацию. А это возможно только посредством общения, а не через шантаж и санкции.

**— Санкции появились не просто так, сами собой. Это был результат 19 декабря 2010 г. и появления политических заключенных. Не хочу спрашивать вас, когда политзаключенные выйдут на свободу, потому что догадываюсь, каким будет ответ. Поэтому поставлю вопрос по-другому: видите ли вы какие-нибудь шансы на подвижки и в этом вопросе?**

— Говорят, что санкции стали ответом на то, что произошло после выборов президента в 2010 году. Не хотел бы начинать дискуссию на эту тему, хоть у меня и нет ни малейшего сомнения, а я находился в это время в ситуационном штабе, что тогда имела место попытка штурма здания правительства и что в другом государстве наказание за подобное было бы еще более суровым. Большинство этих людей уже на свободе, часть из них выехала на Запад. Я не имею права отвечать на вопрос, когда остальные выйдут на свободу, это компетенция судов, а не МИД.

Если бы эти лица написали прошения о помиловании, уже давно, наверное, были бы на свободе. Ну, а если они не хотят... Очевидно, что все это является препятствием для возобновления диалога с ЕС, коль Евросоюз считает эти вопросы основополагающими и зависящими от нас. Однако мы считаем главной проблемой то, что в отношении нас введены санкции. И хотя мы не можем сегодня решить обе эти проблемы, мы все же должны разрешить их в ближайшем будущем, мы вместе работаем в этом направлении, там, где это возможно. У меня впечатление, что в определенной степени ЕС это понимает.

**— Там, где существуют барьеры на пути политического сближения, часто используются другие формы сотрудничества, например в области экономики или в области улучшения климата взаимоотношений. Вы видите такие области?**

— Да. Поэтому мы и предлагаем улучшение климата через сотрудничество в области экономики, права или гуманитарных вопросов. Развитие демократических процессов не может проходить в отрыве от развития рыночной экономики. Нас интересует опыт Европы в этой области, а также в вопросе строительства среднего класса в обществе.

**— Строительство рыночной экономики — это также и проблема приватизации. Недавно правительство приняло амбициозную программу приватизации. Проблема в том, что для ее реализации требуются инвесторы, а их как-то не видно. В 2010 г. ряд польских фирм зондировал вопрос возможности инвестиций в Беларусь. Я имею в виду Kulczyk Holding, который хотел строить электростанцию, PZU, который подумывал о покупке “Белгосстраха”, или Polkomtel, который не исключал выхода на белорусский рынок телекоммуникаций. Эти проекты стали неактуальны после 19 декабря. Вы видите возможность возвращения к таким или подобным проектам?**

— С господином Кульчиком я лично встречался дважды. Мы бы хотели, чтобы к нам приезжали польские инвесторы. Сейчас у нас работает 366 совместных фирм. Это немного, белорусско-российских фирм существует более двух тысяч. Я не утверждаю, что наше деловое законодательство безупречно, но мы его улучшаем. По данным Doing Business, мы входим в первую десятку реформируемых экономик мира. Приватизация идет, можно напомнить о Turkcell, который приобрел одну из телекоммуникационных компаний...

**— Это старый пример, еще 2008 года…**

— Старый или нет... Есть и более свежие, связанные с более мелкими фирмами. Мы, пока во всяком случае, не собираемся продавать предприятия — крупнейшие экспортеры, на которых мы зарабатываем. Зачем нам приватизировать МАЗ или БелАЗ, который занимает 36% мирового рынка тяжелых самосвалов? Поляки сильны в области животноводства, машиностроения, энергетики и в области новых технологий. Мы готовы оказывать содействие совместным проектам.

Однако в последние 2—3 года институциональные формы сотрудничества не работают так, как нам хотелось бы. Но я бы просил также понять, что мы не хотели бы бросаться в процесс продажи предприятий, которые строились поколениями. Мы могли бы их продать, если бы их работники получили гарантии на будущее, а мы — гарантии сохранения уровня производства. Были случаи, когда вскоре после продажи производства ликвидировались, а их работники оказывались на улице.

**— Еще один вопрос, который можно было бы активно обсуждать, — соглашение о малом пограничном движении, которое уже давно подписано, но все же не реализуется. Подобное соглашение уже действует на белорусско-латвийской границе. Сперва хотел бы спросить о его результатах.**

— После начала реализации соглашения с Латвией появился ряд проблем, и мы сейчас хотели бы усовершенствовать это соглашение. Проблемы были связаны с интенсивностью трансграничного движения. Польская сторона недавно выступила с предложением об увеличении пропускной способности существующих погранпереходов. Я бы не хотел, чтобы соглашение привело к возникновению хаоса на границе. С другой стороны, мы рассматриваем эти вопросы также и в общем контексте наших отношений.

**— Это значит, что ратификация соглашения взаимосвязана с политическим сближением?**

— Желание развивать отношения должно иметь место с двух сторон.

**— Готова ли Беларусь к полной отмене визового режима, которое недавно предложил посол Шерепка?**

— Тут получается парадоксальная ситуация. В 2004 г. Беларусь предложила ЕС начать процесс упрощения визового режима и режима реадмиссии. До 2011 г. ЕС нам в этом отказывал. А когда были введены санкции, Евросоюз неожиданно изменил позицию. В такой ситуации принятие такого предложения было бы с нашей стороны несерьезным шагом. Надеюсь, что в будущем этот вопрос будет решен в интересах граждан обеих сторон. С другой стороны, сегодня выезд в ЕС не является проблемой, так как белорусы занимают первое место в мире по количеству виз, выданных на одну тысячу граждан страны.

**— Все еще не разрешена проблема с Союзом поляков в Беларуси. Текущая ситуация, когда одно руководство СПБ признается Минском, а другое — Варшавой, не способствует эффективной работе над важнейшими целями организации, такими как изучение польского языка или пропаганда культуры. Со стороны могло бы показаться, что понимание и в этом вопросе выгодно обеим сторонам.**

— Зарегистрированный СПБ недавно выступил с предложением переговоров о возможности объединения. Не знаю почему, но это разумное, казалось бы, предложение было отклонено. Такая общественная организация, как СПБ, имеет право заниматься вопросами культуры, традиции, языка, однако не должна заниматься политическими вопросами. Мы также не понимаем, почему другое государство имеет разный подход к гражданам нашей страны своей национальности.

Чем больше критикуешь белорусские власти, тем больше средств мы тебе выделим. А если будешь с властями сотрудничать, запретим тебе въезд на территорию Польши. Я не критикую, а представляю свою точку зрения. Нам важно не делить людей по принципу национальности, а сохранить стабильность и мир, которые мы имеем. Прошу мне поверить, что мы хотели бы решить эти проблемы в конструктивном и спокойном ключе. А каждая попытка разыгрывания этой карты извне для нас неприемлема.

**— В 2010 году были попытки сотрудничества в области истории. Минск заявляет, что не имеет сведений о том, что в ваших архивах есть так называемый белорусский катынский список. Однако архивы сталинских времен обширны, а белорусы, как и поляки, в 1930-е годы были объектами репрессий, за которые независимая Беларусь не несет ответственности. Может быть, удалось бы, пусть не на политической основе, а на основе, например, университетского сотрудничества, создать группу историков, которая могла бы совместно работать в белорусских архивах?**

— Учитывая чувствительность этого вопроса, я могу вспомнить, что несколько лет назад президент Беларуси выдал поручение под этим углом проанализировать архивы. В наших архивах катынского списка нет. С другой стороны, в Германии обнаружены экземпляры, выкраденные из Польши. Быть может, и этот список куда-то подевался? Сотрудничество университетов, связанное с исследованием нашего общего исторического прошлого, в отношении таких важных его элементов — вопрос для активного обдумывания. Однако очень важно не смешивать историю с политикой. Я бы не отбросил такое предложение, если бы оно появилось.

**— На каком этапе находятся отношения с Россией?**

— Россия для нас — ближайший сосед, стратегический партнер. Это — объективная реальность. Оттуда мы получаем углеводороды по доступным ценам, доля России в нашем внешнеторговом балансе составляет 49% (с ЕС — 29%). Между нами случаются определенные конфликты, как это обычно бывает между партнерами. Было несколько так называемых “войн”. Война газовая, молочная. Однако в конце концов все они были решены на основе компромисса. Наши народы поддерживают близкие, братские отношения. Между нашими государствами подписаны и действуют более 150 соглашений, граждане могут обучаться и получать медицинские услуги в другом государстве, свободно пересекать границы, вообще мы чувствуем себя друг у друга, как дома. Активно развивается политическое сотрудничество. Участие в интеграционных структурах — совершенно естественное явление. Вы сами понимаете, что государству средней величины, такому как Беларусь, трудно выживать в одиночестве.

**— А вас не беспокоит разница потенциалов Беларуси и России?**

— Институциональная структура Таможенного союза построена так, чтобы без нашего участия нельзя было принять важное решение. Подчеркну, что ТС занимается только вопросами внешней торговли. Мы не боимся утратить контроль над своей экономикой. Важно не отбрасывать возможности сотрудничества между ТС и ЕС, той “интеграции интеграций”, о которой говорил наш президент. В будущем хорошо было бы создать сферу свободной торговли от Лиссабона до Владивостока. Если же подписание соглашений с ЕС и в дальнейшем будет означать запрет подписания подобных соглашений с кем бы то ни было еще, мы ничего не сможем построить из-за новой стены между нами. В рамках “Восточного партнерства” следует предусмотреть возможность разных уровней сотрудничества с ЕС, которая не исключала бы возможность изменения такого уровня в будущем.

**— Можете вы себе представить возможность вступления Беларуси в ЕС через 40, 50 лет?**

— А почему нет? Мы спокойно смотрим на происходящие процессы, вместо того чтобы принуждать государства к окончательному выбору: либо ЕС, либо Таможенный союз. Мы долго жили в тени других народов, у нас были совместные государства с Польшей, Россией, мы жили в СССР. И за эти 20 лет мы не полностью построили свою идентичность. Дайте нам время, чтобы решить, куда идти.

**— Господин министр, кого из современных или исторических политиков вы считаете для себя примером?**

— Больше всех мне импонирует Отто фон Бисмарк. Я — германист и много о нем читал. Необычайно талантливый дипломат, великолепно осведомленный о международных делах и стремившийся сделать из своего отечества цветущую и безопасную страну.

**— Одновременно и великий реформатор.**

— Да, великий реформатор.

**— Много лет вы были руководителем Администрации президента Лукашенко и сейчас близко работаете с ним как министр иностранных дел. Каким руководителем является президент?**

— О Беларуси говорят, что она — последняя диктатура Европы, что создает впечатление, что во главе ее стоит человек, готовый уничтожить кого угодно. А это неправда. Вообще, президент — жесткий человек по отношению к тем, кто не исполняет свои служебные обязанности, проваливает задания, совершает преступления. Прошу поверить, что потом он переживает, когда на кого-нибудь накричит или выскажет претензии. И ищет возможность сгладить случившееся. Это что касается характера. Кроме того, на определенном этапе развития общества твердая власть — хороший способ обеспечить те мир и порядок, которые существуют в Беларуси.

**Перевод с польского — МИД РБ.**

ЧУЛІ?

## Армія пра вас падумала...

Кіроўца, які мае медыцынскія супрацьпаказанні ў ваенным білеце, але з гэтымі ж захворваннямі здолеў атрымаць правы кіроўцы, можа быць альбо пазбаўлены правоў, альбо прызваны на ваенную службу.

Такія кардынальныя захады прапануецца прыняць па выніках праверкі, праведзенай органамі пракуратуры Брэсцкай вобласці на прадмет абгрунтаванасці выдачы правоў асобам, якія пакутуюць на захворванні, на падставе якіх былі прыняты рашэнні аб прызнанні іх непрыдатнымі да ваеннай службы.

ДА ЎВАГІ

## Колькі можна ўгаворваць?

*ДАІ пераходзіць ад тлумачэнняў да пакаранняў. На сталічных машынах “хуткай дапамогі” вырашана ўсталяваць відэарэгістратары, а запісы з парушэннямі будуць перадавацца аўтаінспектарам.*

Па словах галоўнага ўрача станцыі **Аляксандра Жынко,** на рэанімабілях службы “103” ужо ўстаноўлены такія прыборы. Такім чынам, атрымаць штраф за тое, што не саступіў дарогу “хуткай” з уключанай сірэнай, стане не проста, а вельмі проста. Гэткія ж “сюрпрызы” чакаюць і тых, хто парушае правілы паркоўкі ў дварах, з-за чаго машыны медыкаў не могуць даехаць да пацыентаў.

ДАТА

## Слуцкія ўлады дазволілі мітынг у гадавіну Слуцкага збройнага чыну

Слуцкі райвыканкам дазволіў правядзенне мітынгу ў Слуцку 24 лістапада на гарадскім стадыёне.

Заяўку на правядзенне акцыі падавалі кіраўнік слуцкай суполкі Партыі БНФ **Віталь Амяльковіч** і старшыня Партыі БНФ **Аляксей Янукевіч.**

Напярэдадні мітынгу яго ўдзельнікі наведаюць месцы пахавання вайскоўцаў Слуцкага збройнага чыну ў вёсках вакол Слуцка. Арганізатары запрашаюць усіх жадаючых узяць удзел у адзначэнні. З Мінска ў Слуцк будзе арганізавана дастаўка аўтобусам.

### ДА ВЕДАМА

Слуцкі збройны чын — спроба ўзброенай абароны незалежнасці Беларусі ў раёне Слуцка ў лістападзе і снежні 1920 года. Прыкладна месяц беларускія ваенныя атрады аказвалі супраціў савецкім войскам.

ТРАГЕДЫЯ

## Загінулі праз дзень пасля вяселля

*Праз дзень пасля заключэння шлюбу маладая пара (абодва 1990 года нараджэння) загінула пры ДТЗ на аўтадарозе Мінск—Віцебск паблізу Лагойска.*

Пра здарэнне паведаміла УДАІ МУС Беларусі.

Аварыя адбылася ў цёмны час сутак на мокрай дарозе. Маладыя ехалі на нядаўна набытай легкавой машыне з падарункамі, якія яны атрымалі на вяселле, у населены пункт, куды размеркавалі пасля вучобы нявесту. Паблізу Лагойска кіроўца вырашыў пайсці на абгон, аднак па сустрэчнай паласе на тым участку рухалася фура. Яе кіроўца ўбачыў, што насустрач яму ідзе легкавік, і вырашыў сысці ў бок. Аднак сутыкненне пазбегнуць не ўдалося. Ад удару легкавы аўтамабіль разгарнула, а затым у яго ўрэзалася іншая фура. У выніку маладыя загінулі.

БУДЗЬЦЕ ГАТОВЫ!

## Белстат шукае дармаедаў

*Улады зацікавіліся беларусамі, якія афіцыйна не працуюць.*

Гэта вынікае з дакумента, які выявілі ў сваіх паштовых скрынях некаторыя жыхары сталіцы.

“Нацыянальны статыстычны камітэт Рэспублікі Беларусь праводзіць выбарачнае абследаванне хатніх гаспадарак з мэтай вывучэння праблем занятасці насельніцтва, мэта якога — сабраць аб’ектыўную інфармацыю аб занятасці і беспрацоўі ў нашай краіне.

У ходзе абследавання грамадзяне адказваюць на пэўныя пытанні ў залежнасці ад узросту і сацыяльнага статусу. Занятае насельніцтва дасць адказы аб сваёй рабоце і характарыстыках працоўнай дзейнасці. Непрацуючыя — пенсіянеры, хатнія гаспадыні, студэнты, а таксама іншыя катэгорыі незанятых — падаюць інфармацыю аб тым, чаму яны не працуюць, і пра папярэдні вопыт работы, калі ён маецца”, — гаворыцца ў дакуменце.

Збіраць патрэбную інфармацыю Белстат будзе метадам апытання жыхароў Мінска. Якія канкрэтна пытанні будуць зададзены, невядома.

Дакумент падпісаны кіраўніком Белстата Уладзімірам Зіноўскім.

Нагадаем, што некалькі дзён таму ў Палаце прадстаўнікоў было паведамлена пра тое, што ў Беларусі падрыхтаваны праект дзяржаўнага рашэння, якое прадугледжвае спагнанне платы з грамадзян, якія не працуюць і не ўдзельнічаюць у фарміраванні даходнай часткі бюджэту шляхам выплаты падаткаў. Паколькі адначасова яны з’яўляюцца спажыўцамі сацыяльных паслуг — карыстаюцца паліклінікамі, бальніцамі, дзіцячымі садкамі, школамі і гэтак далей — з’явілася ідэя ўвесці для такіх людзей спецыяльны падатак.


НАЦЫЯНАЛЬНЫ СТАТЫСТЫЧНЫ КАМІТЭТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ (Белстат)

НАЦИОНАЛЬНЫЙ СТАТИСТИЧЕСКИЙ КОМИТЕТ РЕСПУБЛИКИ БЕЛАРУСЬ (Белстат)

Уважаемые граждане!

Председатель В.И.Зиновский

КРИМИНАЛ

## Печальный финал «нового белоруса»

*Обвинение в убийстве бизнесмена Сергея Клемантовича и его спутницы **Ольги Скаредной** предъявлено депутату абхазского парламента Нодику Квицинии.*

Местное агентство “Апсны-пресс” со ссылкой на абхазскую прокуратуру сообщило, что депутату предъявлены обвинения по нескольким статьям, среди которых “Совершение в составе организованной группы похищения двух лиц”, “Умышленное убийство двух лиц” и “Незаконное приобретение, хранение и ношение огнестрельного оружия”.

Напомним, что Сергей Клемантович и его спутница пропали в сентябре 2012 года на одной из трасс в Абхазии. В октябре 2013 года в заброшенном колодце одного из местных сел были обнаружены их тела.

Сергей Клемантович имел российское гражданство и возглавлял компанию “Эль Петролеум—Абхазия”, которая занималась заготовкой и обработкой металлолома, а также заготовкой щебня. Начинал же бизнесмен свой бизнес в Беларуси, где считался одним из основателей автоторгового бизнеса. Клемантович начинал с реэкспорта “Лад” по схемам Бориса Березовского, поставляя их из Венгрии на белорусский, российский и казахстанский рынки. В 1990-е годы бизнесмен вел крупный бизнес на топливном рынке СНГ, торговал металлами, сельскохозяйственной и грузовой техникой, стройматериалами и занимался зачетами. У бизнесмена было много высокопоставленных друзей среди белорусских и российских чиновников, он входил в совет Международного союза десантников.

В 2001 году его компания “Эль Петролеум” выкупила у правительства Литвы с дисконтом задолженность Беларуси за поставленную с Игналинской АЭС электроэнергию. Долг в размере 50 млн обошелся Клемантовичу в 30 млн долларов. В Беларуси “Эль Петролеум” получила право проведения на эту сумму энергозачетов. В частности, в их рамках она превратилась в эксклюзивного поставщика на российский рынок металлокорда Белорусского металлургического завода. Но в 2002 году участие “Эль Петролеума” в поставках металлопродукции привело к крупному скандалу — отставке тогдашнего директора БМЗ Вадима Филиппова и временному задержанию самого Клемантовича. Ему удалось покинуть Беларусь, но с той поры он прекратил активную деятельность на белорусском рынке и сосредоточился сначала на бизнесе в России и Казахстане, а потом перенес центр операций в Абхазию.

Бизнесмен был женат на одной из финалисток первого конкурса красоты в Беларуси — “Минская красавица—1988”, позже обладательнице титула “Миссис Москва—2000” белоруске Наталье Сенькевич.

СЛЫШАЛИ?

## Чемоданы денег станут анахронизмом

Национальный банк Беларуси уже в следующем году рассчитывает ввести лимит наличных расчетов для населения.

Об этом сообщил журналистам заместитель председателя правления Национального банка **Сергей Дубков** на X Международном форуме по банковским информационным технологиям "БанкИТ".

*"Национальный банк выступил с инициативой по установлению лимита расчета физическими лицами наличными денежными средствами. Чтобы Национальный банк получил полномочия устанавливать лимит для физических лиц, необходима законодательная норма. Такая норма, предполагается, будет установлена, в уставе Национального банка, который утверждается указом, в настоящее время проходит межведомственное согласование. Надеемся, в январе эта норма будет принята, формализована и направлена для исполнения",* — отметил Сергей Дубков.



На данный момент эксперты пришли к согласию установить предельный размер наличных розничных платежей на уровне 1,5 тысячи базовых величин (в настоящее время это приблизительно 16 тысяч долларов США). За покупки и услуги дороже этой суммы придется рассчитываться с банковского счета.

Для сравнения: в России такой лимит составляет около 20 тысяч долларов, в Украине — 18 тысяч.

РЕГИОН

## Улица, что в имени твоем?

В поселке Микашевичи объявлено всенародное обсуждение названий улиц нового микрорайона.

Лунинецкий райисполком предложил населению принять участие в обсуждении названий новых улиц, расположенных в микрорайоне индивидуальной застройки "Юго-Запад-1" Микашевичей. Никакой самодеятельности — все в соответствии с законом Республики Беларусь от 16.11.2010 года "О наименовании географических объектов", который дает право гражданам участвовать в рассмотрении вопросов присвоения названий улицам. Свои предложения исполком просит присылать на адрес земельной службы РИК или сайт. Пока предлагаются для обсуждения названия шести улиц микрорайона: Гранитная, Брестская, Пангаласовская, Гомельская, Минская и Полесская. Всего же их около десятка.

Как видно, фантазией сотрудники соответствующего подразделения исполкома не блещут. Да и не просматриваются ни исторические этапы, ни фамилии известных людей, которыми полесская земля весьма богата. Правда, может, что-нибудь интересное и колоритное предложат горожане? Хотелось бы. Ибо на подходе еще одна территория планируемой застройки площадью 3,6 гектара. Есть где развернуться.

Кстати, не является образцом в топонимике и областной центр, в котором не нашли после долгого всенародного обсуждения ничего лучшего для нового названия стадиона "Динамо", чем "Брестский". А чей же еще? В Бресте, кстати, десять (!) Вересковских улиц (1-я, 2-я и так далее). В каком-то смысле удобно — не заблудишься. А главное — лояльно в любые времена и политически нейтрально.

**Игорь ИРИНИЧ.**

*Брест.*

ДЗІКУНСТВА!

## Суд над вычварэнцам

У Светлагорску пачаўся суд па абвінавачванні былога прыёмнага бацькі ў сексуальным гвалце над дзецьмі-сіротамі.

Пасяджэнні суда праходзяць у закрытым рэжыме.

43-гадовы мужчына абвінавачваецца ў сексуальным гвалце, які быў здзейснены ў дачыненні да выхаванак дзіцячага дома сямейнага тыпу. У якасці пацярпелых па справе праходзіць яго дачка, а таксама тры сіраты, якія знаходзіліся на выхаванні ў гэтай прыёмнай сям'і.

Па матэрыялах расследавання, гвалтоўныя дзеянні сексуальнага характару здзяйсняліся абвінавачаным з 2004 года ў дачыненні да дачкі, калі ёй было 10 гадоў, а з 2009 года і ў дачыненні да іншых дзяўчынак. На сённяшні дзень ім 12, 13 і 15 гадоў. Адна з іх, зацяжарыўшы ад былога прыёмнага бацькі, ужо нарадзіла. Санкцыі адпаведных артыкулаў Крымінальнага кодэкса прадугледжваюць пакаранне ў выглядзе пазбаўлення волі на тэрмін ад 8 да 15 гадоў.

КРЫМІНАЛ

## Шукаюць падпальшчыка

У вёсцы Пыхань Веткаўскага раёна з жніўня па лістапад 2013 года зафіксавана дзесяць падпалаў маёмасці. У асноўным гараць стагі сена і саломы, падпалы здзяйсняюць невядомыя позна ўвечары.

Як паведамілі ў Веткаўскім РАУС, у адной з жыхарак вёскі сена палілі ўжо тры разы, у яе аднавяскоўца пажар быў двойчы. У лістападзе каля аднаго з дамоў вёскі загарэўся рулон саломы, агонь перакінуўся на хлеў...

ТРАГЕДЫЯ

## Адзін памёр, другі трапіў у рэанімацыю

У інтэрнаце Пінскага дзяржаўнага аграрнага тэхналагічнага каледжа трое навучэнцаў адзначалі дзень нараджэння. "Свята" скончылася трагічна: адзін хлопец памёр, другі трапіў у рэанімацыю. Трэці, відаць, нарадзіўся пад шчаслівай зоркай.

Як распавёў дырэктар каледжа Міхаіл Скулавец, трое непаўналетніх навучэнцаў вырашылі адзначыць дзень нараджэння аднаго з іх. Юнаку ў той дзень споўнілася 16 гадоў. Менавіта ён і стаў ахвярай фатальнай п'янкі. Па словах дырэктара, раней хлопец не быў заўважаны ў распіванні спіртных напояў, вучэбную і выканальніцкую дысцыпліну не парушаў. У той вечар падчас абходу інтэрната пасля 23 гадзін дзяжурны нічога падазронага не выявіў. Як высветлілі следчыя, набыць гарэлку кампаніі дапамаглі навучэнцы гэтага ж каледжа яшчэ днём, каля 16 гадзін, у мясцовым супермаркеце. Распіць спіртное вырашылі пасля 23 гадзін. Адзначалі пры святле мабільных тэлефонаў, каб ніхто іх не заўважыў. Літаральна за нейкія паўгадзіны да гэтага маці павіншавала сына па тэлефоне і папрасіла, каб ён не ладзіў ніякіх вячорак з алкаголем. На жаль, у 7 гадзін раніцы яго знайшлі ў пакоі мёртвым.

Пінскім міжраённым аддзелам Следчага камітэта Рэспублікі Беларусь па Брэсцкай вобласці праводзіцца праверка. Бацькі вырашылі пахаваць сына ў роднай вёсцы. Яны папрасілі нікога не вінаваціць у яго смерці.

ВЯРТАЮЧЫСЯ ДА НАДРУКАВАНАГА

## Сяргей Супронавіч, прабачце калегам...

Трэба ж так прамахнуцца! У мінулым нумары народавольцы віншавалі з 90-годдзем калегу па пяры, ветэрана беларускай журналістыкі С.С.Працьку — і, на жаль, у рэдакцыйнай урэзцы няправільна напісалі яго імя па бацьку. Вядома ж, юбіляра зваць Сяргей Супронавіч, а не Сяргей Сяргеевіч.

Прабачце, шаноўны калега! Калі будзеце адзначаць 100-годдзе, нават лішнюю коску не прапусцім у віншаванні. Таму трымайцеся, моцнага здароўя да наступных юбілеяў!!!

**Народавольцы.**

АСОБА

# Іван Сачук: чалавек з вогненнай вёскі

Самыя шчаслівыя моманты ў жыцці звычайна застаюцца ў памяці нейкімі імгненнямі. "Было добра", — з задавальненнем кажа чалавек, нават не памятаючы дэталяў.

Іншая справа — гора. Усё да рысачкі падпаленым пункцірам упаяна ў свядомасць, а ў сэрцы — свінцовая гіра. Назаўжды.

Калі ў Івана Аляксандравіча Сачука пытаешся пра біяграфію, ён пачынае ўспамінаць сваё жыццё не з Маскоўскага дзяржаўнага ўніверсітэта імя М.Ламаносава, дзе ў юнацтве вучыўся на юрфаку, і не з першай прыгожай любові, якая стала лёсам — з пачатку, як у кіно: проста ўбачыў фота прыгожай незнаёмкі ў газеце, марыў пра яе тыдні і месяцы, пісаў, а потым яшчэ за сэрца дзяўчыны змагаўся не з суседскім трактарыстам, а з сапраўдным лётчыкам, будучым касманаўтам Мікалаевым.

Аповед пра сваё жыццё Іван Аляксандравіч пачынае нават не з дыхтоўнай кар'еры дацэнта, загадчыка кафедры ў Мазырскім педуніверсітэце — хоць педагогіцы прысвяціў усё жыццё, быў захоплены ёю як навукай, выступаў за аўтарскія навучальныя праграмы выкладчыкаў, удзельнічаў у міжнародных канферэнцыях.

Іван Сачук сваё доўгае жыццё заўсёды пачынае ўспамінаць з агню.

*"Я сплю і не сплю, бо яскрава адчуваю, як мяне зноў і зноў нехта штурхае і кідае ў агонь... Я ведаю, што не вярнуся адтуль, ведаю, але не стараюся абараніцца ад агню, уцячы, вырвацца з яго абдымкаў — у мяне толькі адно дзіцячае настойлівае імкненне:- што б мне ні пагражала, я павінен абараніць маці і сястрычак, выхапіць іх з абдымкаў смяротнага полымя...*

*Але, на вялікі жаль, мне тое не ўдалося зрабіць.*

*І ад бездапаможнасці, ад таго, што не магу ўратаваць іх, — крычу ад страху, злосці і крыўды, прашу некага памагчы, ўратаваць іх жыцці...*

*Аднак ніхто не прыходзіць мне на дапамогу".*

Такія ўспаміны — цяжкая ноша. Яны прыходзяць, як накочвае вялікая хваля: раптам накрывае з галавой, і чалавек тоне, захлынаецца ў горы, колькі б гадоў ні прайшло. Звычайна, распавядае Іван Аляксандравіч, гэта адбываецца сярод ночы, і тады ён устае, ідзе на кухню, доўга глядзіць у цёмны акіян за акном, баючыся вярнуцца да ложка. Бо там, над падушкаю, яшчэ доўжыцца яго трывожны сон і працягваецца вайна...

## За што такое выпрабаванне?

Іван рос у вялікай сялянскай сям'і, у яго бацькоў было пяцёра дзяцей: ён і чатыры сястрычкі. Тры дзяўчынкі старэйшыя, і толькі Палінка была малодшай за яго. Калі пачалася вайна, бацька пайшоў на фронт. Маці было вельмі цяжка, яна часта стала хварэць. Аднойчы паслала яго, Івана, са старэйшай сястрой Таццянай да бабулі і дзеда ў суседнюю вёску: за зёлкамі, за якой-ніякой ежай для сям'і — не спраўлялася адна жанчына з пяццю малымі ў доме. У Раманаўцы дзеці заначавалі. Раніцай зазбіраліся адразу дадому, у сваю вёску Буда-Казіміраўская, ды Янік загуляўся з суседскімі хлопцамі, са стрыечнымі братамі. Таня, як старэйшая, больш адказная, сышла без яго — спяшалася да хворай матулі. Бабуля спачатку сварылася на малога бэйбуса Іванку за спазненне, але потым, вядома, злітавалася і сказала, што днямі завядзе яго дадому сама — таксама даўно не бачыла дачку, сумуе па ёй і ўнукам.

А ў гэты час Буда-Казіміраўскую акружылі карнікі... Жыхароў вёскі прыкладамі загналі ў хаты, а потым падпалілі... Вёска згарэла дашчэнту. Загінулі ў агні мама і сёстры хлопчыка. Любка, Аляксандра, Паліна... І Таццяна, якая так спяшалася выканаць даручэнне. Дзяўчынка, выходзіць, вярнулася якраз да сваёй смерці. Хай бы і яна, як Іван, затрымалася ў бабулі! Але не... А хлопчыка, выходзіць, выратаваў выпадак? Дзіцячае цьмянае свавольства, забава, гульня, бо не затрымайся ён на вуліцы, пайшоў бы са старэйшай сястрой дадому, і не быў бы ў жывых маленькі Іван!

*"Выбраліся мы з бабуляй у Буда-Казіміраўскую праз некалькі дзён. Калі падышлі да нашага селішча, то нас сустрэлі чорныя галавешкі. Баба як стаяла, так і абвяла, асунулася на зямлю, слаба войкнула пры гэтым. Упала тварам у чорны попел, не рухалася нейкі час. А потым з яе грудзей вырваўся хрып і галашэнне, плач... Я стаяў, зажмурыўшы вочы. У мяне скамянела сэрца. На сваім селішчы, раскіданым, спаленым чужынцамі гняздзе, я развітаўся са сваім дзяцінствам... І ўжо нават не быў юнаком. За дзень я пражыў гэты перыяд. Пастарэў я, мусіць, на сто гадоў..."*

Пазней стала вядома, што акрамя Буда-Казіміраўскай, якая была спалена дашчэнту і ў якой загінулі 127 вяскоўцаў, у тую ж ноч у другой вёсцы — Казіміраўцы — фашысты спалілі 76 хат і расстралялі 358 чалавек — жанчын і дзяцей. Такі ж лёс напаткаў і вёскі Зялёны Мох, Крушнікі, Спрымачоў. Усяго за гады вайны ў Мазырскім раёне загінула каля 2 тысяч чалавек. А ў самім Мазыры падчас акупацыі гітлераўцы і паліцаі забілі і закатавалі каля 6 тысяч чалавек.

*"Пазней ужо, як стаў дарослым, як стаў шукаць дакументы і здабываць звесткі і архіўныя паведамленні, як пачаў разбірацца ў трагедыі маёй роднай вёскі і ўсяго раёна, даведаўся, што ў той крывавай акцыі ўдзельнічалі карнікі абверкаманды 10-СА, якой камандаваў начальнік К.Крыстаман і, на вялікі-вялікі жаль, бралі ўдзел свае, мясцовыя, мазырскія бобікі — фашысцкія паслугачы з мазырскай паліцыі...".*

Да вызвалення Мазыршчыны Іван з роднымі і вяскоўцамі хаваліся ў лесе — баяліся карнікаў. Не было чаго есці, дзеці, дарослыя пухлі з голаду.

*"Памагла мне выжыць, канечне ж, баба Марта... Але тое — асобная старонка ў маім дзіцячым жыцці, і ад таго не хочацца вярэдзіць душу і сэрца непатрэбным напамінам... Яно ўсё са мной, яно ўсё — ува мне, і той крыж памяці на маю Галгофу несці мне да скону...*

*У жыцці як атрымліваецца — не шанцуе, не шанцуе, а потом як... не пашанцуе! Можа, Бог паслаў мне такое жыццёвае выпрабаванне, каб я выстаяў, не сагнуўся і перад астатнімі ўдарамі лёсу, загартаваўся і быў моцным духам у сваім змаганні і пры дасягненні сваёй мэты, сваёй мары...*

*Бо і жыццё, і тыя, хто кіраваў намі, ад каго залежаў мой асабісты жыццёвы лёс, стараліся сагнуць мяне ў дугу, зламаць маю волю і ўпартасць. Толькі дапамога маці, дзядоў і астатніх родных, якіх даўно няма сярод нас, памаглі мне выстаяць, застацца самім сабой і не чырванець за нейкія памылкі і пралікі".*

## Па чужых кутах



Іван стаў круглым сіратой — на бацьку неўзабаве прыйшла пахавальная. Яго выхоўвала бабуля Марта. Але ужо ў 1944 годзе Іван Сачук, як і ўсе дзеці з вызваленых беларускіх зямель, пайшоў у школу. Праз некалькі гадоў, пасля заканчэння пачатковай школы, Івана забраў да сябе ў Полацк яго родны дзядзька, маёр Савецкай Арміі Аляксей Дзмітрыевіч Прахарэнка. Потым служба прымусіла іх з дзядзькам пераехаць у Каўнас. Там Іван скончыў прафгімназію №8.

Вучыўся ён добра. А вось адносіны з сям'ёй дзядзькі, дакладней, яго жонкай, былі складанымі. Маладая жанчына зненавідзела пасынка: біла яго, аднойчы нават душыла падушкай. Ён галадаў. Часам Івану даводзілася начаваць у сваёй настаўніцы. Жыццё ў падлетка-сіраты было іншы раз проста невыносным. Родны дзядзька, маёр Савецкай Арміі, быў не ў сілах справіцца з сітуацыяй — з сварлівай, але каханай маладой жонкай, якая толькі што нарадзіла яму двух сыноў.

*"Не па гадах я стаў дарослым. На маім твары ніколі не з'яўлялася ўсмешка. Акамянела сэрца, не рэагавала ні на што — як і не было яго ў мяне зусім... Ды і ў дзіцячыя, хлапчукоўскія гульні не гуляў — перарос я тыя радасці. У галаве былі думкі дарослага ўжо чалавека: як жыць далей, як вучыцца, і галоўнае — кім стаць у жыцці?"*

Было прынята рашэнне пайсці ў педагогі — на кароткім жыццёвым шляху Івана гэта былі самыя паважаныя людзі. Паколькі ў атэстаце за сярэднюю школу ў яго былі адны пяцёркі, ён быў прыняты ў Мазырскае педвучылішча без экзаменаў.

*"Першая ноч у інтэрнаце. Упершыню ў жыцці я займеў уласны ложак з белымі прасцінамі і мяккай падушкай. Займеў першых сяброў. Са мной пасяліліся ў пакоі Алесь Ядчанка, Міхаіл Цітоў, Яўген Падаляцкі... І прагаварылі мы з імі да самай раніцы — бо былі ўзрушаны юначай радасцю яднання, тым, што мы вучымся ў педвучылішчы і што праз некалькі год станем настаўнікамі... гаварылі доўга і ўсхвалявана. Заснулі стомленыя гамонкай, калі ўжо ўзышло сонца і першыя промні зазірнулі ў наш пакой".*

Праз тры гады Іван Сачук атрымаў чырвоны дыплом і вольнае размеркаванне. Яму можна было адразу паступаць у ВНУ (здаўшы толькі два экзамены як выдатніку). Але ён выбраў работу ў маленькай вясковай школе Лельчыцкага раёна. Па праўдзе кажучы, пасля ўсіх выпрабаванняў чалавеку хацелася проста ўзяць паўзу на год, адчуць сябе самастойным, атрымліваючы зарплату. Але педвучылішча стала толькі першай прыступкай лесвіцы ведаў. Працуючы ў вясковай школе, ён актыўна рыхтаваўся да паступлення ва ўніверсітэт.

## Мудры паляшук

Ён абраў не абы-які ўніверсітэт, а Маскоўскі дзяржаўны — МДУ. Ад гэтых трох літар да гэтага часу дух захоплівае, хоць свет перад намі рассунуўся незвычайна, можна падаваць дакументы ва ўніверсітэты Варшавы, Прагі, Лондана, нават Парыжа. А тады, у сярэдзіне 1950-х, Масква была адзіным цэнтрам савецкага свету. Значыць, і ўсяго свету наогул — замежжа для большасці проста не існавала. Можна ўявіць, што хлопцу з беларускай вёскі, з глухамані, які толькі-толькі здаволіў пасля вайны фізічны голад, трохі абагрэўся ад невыносна цяжкіх душэўных ран, такому хлопцу Масква павінна была здавацца недаступнай вяршыняй. Яна і здавалася такой. Але ў душы жыла мара — вучыцца ў Маскве. І Іван Аляксандравіч паехаў яе ажыццяўляць. Толькі вагаўся, на які факультэт падаваць дакументы. Абраў юрыдычны. Вядома, ён хваляваўся, яшчэ як хваляваўся! Але страху не было. Свой страх ён перажыў значна раней, у дзяцінстве, калі жыўцом спалілі яго родных.

І паляшук паступіў у МДУ!

Сам у сябе пытаўся і здзіўляўся:

*"Ты, паляшук са спаленай фашыстамі вёскі, ты, якога замест маці ўзгадавала і выхавала амаль непісьменная баба Марта з малечкай вёсачкі Раманаўка, таксама спаленай, але адроджанай пасля вайны; ты, жывучы сярод балотных вужоў і цнатлівай прыроды; ты, не маючы на пачатку сваёй вучобы ні буквара, ні ручкі, не маючы ўплывовага родзіча ці знаёмага з "валасатай рукой", якія дапамаглі б па блаце паступіць ва ўніверсітэт; без аніякай дапамогі, а толькі дзякуючы сваёй настойлівай працы і выдатнай вучобе, — ты сігануў ад Раманаўкі да самой Масквы..."*

У думках ён дзякаваў Богу, дзякаваў матулі і бацьку, сястрычкам, дзеду Зміцеру і бабулі, дзядзькам — Аляксею і Васілю і ўсім тым, хто быў міжволі далучаны да яго лёсу, выказваў шчырую падзяку і нізка кланяўся ім у ногі.

*"Я верыў і цвёрда быў перакананы, што Бог дараваў мне мой грэх. А ён заключаўся ў тым, што ішоў я па дзвюх дарогах — па адной ішоў як атэіст (быў кандыдатам у члены партыі, рыхтаваўся да ўступлення), які павінен быў адмаўляць існаванне Усявышняга, а з другога боку — я ж выхаванец мудрай і добрай бабулі Марты, якая яшчэ да школы навучыла мяне накладаць на сябе крыж і прасіць у Ойча дапамогі ва ўсіх справах і клопатах...*

*Не, мяне не раздзіралі супярэчнасці. Я ж быў паляшук. А паляшук павінен быць мудрым чалавекам: гаварыць адно, а паступаць па сумленні, жыць толькі па Божых запаветах... Так таго вымагаў час, так дыктавалі паступаць абставіны. Але ніводнага разу, калі б ні выступаў і дзе б ні выступаў з прамовамі ці лекцыямі, — ні ў спрэчках, ні ў размовах ніводнага слова ніколі і нідзе не сказаў супраць Творцы, супраць Яго Сына і Святога Духу. Бо Яны аберагалі мяне, Яны апекавалі мяне, вялі ў вялікі свет".*

Вучоба і студэнцкае жыццё ў маладога палешука была насычанае. Лекцыі, бібліятэкі, залікі, экзамены. А яшчэ тэатры, музеі — перад сельскім хлопцам адкрываўся свет магутнай культуры. Усё хацелася спасцігнуць. Але ж, вядома, прыйшло і першае каханне. Менавіта ў Маскве Іван сустрэўся са сваёй Стэфаніяй, дэлегатам камсамольскага з'езда з Украіны. Яны доўга перапісваліся, нязменна заканчваючы лісты "камсамольскім прывітаннем". Але пачуцці бралі сваё, узаемная цікавасць перарасла ў вялікае каханне, хлопец і дзяўчына ажаніліся. Так што МДУ Іван заканчваў сямейным чалавекам.

Па размеркаванні паехаў працаваць у Палтаўскую вобласць. Пачынаў следчым, але вельмі хутка Івана Аляксандравіча ўзялі на партыйную работу. Завочна ён паступіў у аспірантуру Маскоўскага педагагічнага ўніверсітэта, напісаў дысертацыю, абараніўся, стаў кандыдатам гістарычных навук. Праз некалькі год маладая сям'я вырашыла пераехаць жыць і працаваць з Украіны ў Беларусь, у родны Мазыр. Іван Аляксандравіч стаў выкладчыкам Мазырскага педінстытута. Неўзабаве ім выдзелілі кватэру. Першая ўласная жылплошча! Гэта было сапраўднае шчасце.

*"Не верылася, але тое было явай, а не прывідам. Нашы мары пачалі здзяйсняцца. Тады мне падумалася: "Мо то нябожчыкі — матуля з бацькам ды дзед Зміцер — памагалі мне ўзбівацца на жыццёвую дарагу. Мусіць жа, бачылі, як не шанцавала мне ў жыцці, з якімі цяжкасцямі я караскаўся на свой педагагічны алімп, як прасіў дапамогі ў Нябеснага Творцы.*

*Я быў на нейкім эйфарычным узлёце. Я ішоў да студэнтаў, як на свята. І чытаў свае лекцыі на адным дыханні".*

У 1975 годзе, у самы апошні дзень снежня, Івана Аляксандравіча Сачука абралі загадчыкам кафедры гісторыі КПСС Мазырскага педагагічнага інстытута.

*"Я нырнуў у працу, як кажуць, з галавой. Грамадскія нагрузкі, чытанне лекцый па раённых цэнтрах і вёсках вобласці... Я не стамляўся, а наадварот, з кожным днём набіраўся ўсё болей і болей напорыстай сілы і потым пераносіў яе на лекцыі і дыспуты са студэнтамі... І не верылася, што мае пакуты скончыліся, што жыццё павярнулася да мяне лепшым бокам. Я бачыў, якім шчасцем свяціліся вочы маёй жонкі. Тое ж святло, мусіць, адбівалася і ў маім поглядзе".*

## Крэда Настаўніка

Сёння дацэнт Іван Аляксандравіч Сачук ужо на пенсіі. Але педагог, настаўнік Іван Сачук не адышоў ад сваёй працы. Яго крэда: вучыць не падручнік, а асабісты прыклад Педагога, асоба выхавацеля.

*"Мяне ўсё жыццё, нават яшчэ задоўга да таго, як я выбраў педагагічную дарогу, хвалявала пытанне: якім усё ж павінен быць настаўнік, каб яму давяралі дзеці, каб любілі яго, каб бралі з яго прыклад, пераймалі ад яго самае лепшае, самае неабходнае.*

*Агульнавядома, што лёс і нашай дзяржавы, і іншых краін у XXI стагоддзі будзе вырашаць адукацыя. З гэтым ніхто са мной спрачацца не будзе. Важнейшую ролю ў падрыхтоўцы будучых настаўнікаў і педагогаў-выхавацеляў павінна адыграць распрацоўка вучоным-выкладчыкам аўтарскай праграмы, якая будзе з'яўляцца неабходнай часткай асобаснай канцэпцыі выкладання і навучання. Гэта павінна быць канцэпцыя поўнай свабоды педагагічнай творчасці. Мабільная. Дынамічная, якая ўлічвае сітуацыі ўчарашняга, сённяшняга і таго, што будзе заўтра. Сюды ўваходзіць і дапамога ў стварэнні маральна-псіхалагічнага клімату ў студэнцкіх калектывах. Яшчэ яна павінна ўключаць у сябе асабісты вопыт творчай дзейнасці выкладчыка. Прафесійны выкладчык — гэта кампетэнтны, тактоўны, тарыскі і клапатлівы Педагог.*

*Прафесар абавязаны быць шырэй і вышэй сваёй спецыяльнасці. Ён павінен быць яшчэ і філосафам па складзе мыслення, гуманным чалавекам, чалавекам-эталонам у паводзінах. Выхавацель-педагог заўсёды павінен знайсці час для "споведзі" студэнта. Але толькі калі той сам таго жадае, і ні ў якім разе самому не лезці ў душу з роспытам без дазволу і ахвоты выхаванца. Не адхіляючыся ад галоўнага курса ВНУ — вучыць спецыяльнасці, сеяць веды, ідэі і думкі, педагог павінен пасеяць у душы кожнага са студэнтаў зерне дабрыні, любові і цеплыні.*

*Вось і заканчваю я аповед, сваю споведзь, гісторыю свайго жыцця. Прайшоў я ў сваіх успамінах па сцежках свайго дзяцінства, калі застаўся без бацькоў, калі глытаў слёзы горычы і несправядлівасці, не выстаўляючы напаказ боль сваёй душы, калі вучыўся, стаў дарослым чалавекам — студэнтам, следчым, настаўнікам, педагогам вышэйшай школы.*

*Але я заўсёды верыў, што чалавек створаны для таго, каб у супольнасці з іншымі рабіць дабро, дзяліцца сваёй душэўнай цеплынёй, каб аддаваць і быць ад гэтага багацейшым (святая мудрасць маёй бабулі Марты!), мудрэйшым і гатовым да самаахвярнасці".*

...Вось я і перагарнула апошнюю старонку дакументальнай аповесці Івана Сачука "Цяплом душэўным падзялюся...". Не так даўно на сустрэчы з чытачамі Мазыра, якую праводзіў наш галоўны рэдактар Іосіф Сярэдзіч, гэтую кніжку яму падарыў асабіста аўтар, Іван Аляксандравіч Сачук, адзін з адданых падпісчыкаў "Народнай Волі". Прадстаўнічы, хоць і немалады мужчына, ён выклікаў прыхільнасць да сябе, жаданне паразмаўляць — напэўна, да гэтага часу даваў аб сабе знаць багаты педагагічны вопыт, які Іван Аляксандравіч відавочна не страціў да сённяшняга дня, хаця ўжо на пенсіі.

Але акрамя моцнага прафесійнага мінулага ў нашым суразмоўцу відавочна падкупляла і нешта яшчэ: цеплыня, жыццярадаснасць, унутраная гармонія. Словам, пазітыў, як цяпер любяць казаць. І гэтыя якасці ёсць у чалавека, у якога лёс на самым пачатку жыцця адабраў сям'ю, самых блізкіх, самых родных людзей! А ён насуперак усяму вырас добрым чалавекам, не агрубелым душой, не расчараваўся ў людзях, не замкнуўся толькі на сваёй бядзе. Больш за тое, напісаў кніжку, нават у назве якой разліта дабрыня, а галоўнае слова — "падзялюся".

На жаль, наш камандзіровачны час быў абмежаваны, і мы гутарылі з Іванам Аляксандравічам не так шмат, як хацелася б. А калі ўжо ў Мінску ўважліва прачыталі яго кнігу, тым больш зразумелі, ад якога тонкага суразмоўцы забрала нас вытворчая неабходнасць хутчэй быць у рэдакцыі.

**Алена МАЛОЧКА.**
**Фота аўтара.**

*г.Мазыр.*

Народная Воля
http://www.nv-online.info
22 ЛІСТАПАДА 2013 г.

ЗЕМЛЯКІ

# Шаптуха баба Надзя: «Я — божая...»

*Пра тое, што баба Надзя лечыць, мала хто ведае ў Лунінецкім раёне. Яна не імкнецца да славы, але і не ўтойвае таго, што можа часам дапамагчы хвораму чалавеку або таму, хто ў роспачы ад жыццёвых абставін.*



Хто папросіць дапамогі — заспакоіць добрым словам, пашэпча на ваду або... выкачае яйкам. Гэты сродак незвычайны, бо яйка мае глыбокі сімвалічны сэнс у міфалогіі беларусаў, прысутнічае ў многіх абрадах і звычаях. Чырвонае яечка на Вялікдзень. Выган кароўкі першы раз на пашу праз яйка на парозе хлява — каб была здаровай усё лета. Яйка клалі ў насенне перад Засеўкамі, каб зерне вырасла поўным... І шмат чаго яшчэ. На Палессі з даўніх часоў яйка было асноўным падарункам маламу дзіцяці. І не толькі таму, што не было лепшых прысмакаў, — старэйшыя людзі ведалі пра яго каштоўныя якасці, асабліва неабходныя для здароўя і росту дзіцяці. Да таго ж яно было сімвалам здароўя, цэльнасці, гарманічнага развіцця.

Асноўным, што памагае, баба Надзя лічыць малітву да Хрыста і Божай Маці. Малітву гэтую ёй перадала старая адзінокая аднавяскоўка, якой яна, пакуль тая жыла, дапамагала па гаспадарцы. Яе таксама звалі Надзя, а па-вулічнаму — Гульчыха. Моц яе малітвы і псіхалагічнай дапамогі адчула на сабе і тады, калі старая паспрыяла ў вырашэнні праблем у сям'і. Не раз назірала, як лячыла старая лекарка. Такія захавальніцы народнай медыцыны былі некалі ў кожнай вёсцы — прымалі роды, давалі травы і карэнні, сабраныя ў пэўную пару, чыстую ваду, лячылі самымі рознымі спосабамі, якія перадаваліся з пакалення ў пакаленне. Медыцына сялянам глухіх вёсак была недаступная.

Дык вось што расказвае баба Надзя пра тое, як выкачвае яйкам. Пры гэтым прысутнічаў і Аляксей Сталяроў, адчуўшы цеплыню слова гэтай жанчыны і незвычайнасць магічных дзеянняў, якія дайшлі да нашага часу праз многія стагоддзі. "Зразу выкачваю голову, далэй плэчы, да одну руку, да другу руку, ногу, далэй — кругом шыі. Еслі на тебе што естэ, я яйцэ выбіваю в стакан, ставлю на голову і лію воду на это яйцэ до верху. Одразу бачу, як выходыть золота капля. Бывае — вышла і лопнула, тогды я знаю, што ніц не мае хворобы. А бывае — выйдэ бочка з золотою головою на ўвесь стакан: хворы вэльмі. Одразу бачу, што е, воно одразу покажэ. І одразу стане тобі лучшэ, одразу вэсэлэй". Мясцовая гаворка і бабуліны словы — мяккія, спакойныя — унушаюць такі ж спакой душы і хвораму. "Я спасаю людэй, — гаворыць баба Надзя. — Спуд, ад заіквання, верэды (натомленыя суставы) лечу. І дажэ можу поговорыть по фотографіі. Выкачаю, і чоловеку полэгчае. Раз малому поладіла по фотографіі — вон спужавса, што дід пры ім помёр. Эта молітва сільна. А я — божая. Одін день я много лечыла людей. Прышла ноч — не можу спаты. То я і собе выкачваю, помогае".





**Рэгіна ГАМЗОВІЧ,**
**журналістка,**
**грамадскі эксперт**
**па нематэрыяльнай**
**культурнай спадчыне.**

ВАС ЦІКАВІЦЬ...

## Знайшлі з каго спагнаць

***Прашу "Народную Волю" патлумачыць, ці будзе ўсё ж такі ўведзены новы падатак на кіроўцаў. І калі будзе, то які ягоны памер?***

**Васіль Рымараў, Гомель.**

Падобна на тое, што новы збор усё ж такі будзе. Толькі афіцыйна ён называецца "дзяржаўная пошліна за допуск аўтамабіляў да дарожнага руху ў Беларусі". Згодна з прапановай Міністэрства фінансаў, пошліна складзе ад 1 да 25 базавых велічынь і будзе залежаць ад масы і віду машыны, а таксама ад таго, хто з'яўляецца ўладальнікам транспартнага сродку — чалавек ці прадпрыемства. Такім чынам, на дадзены момант памер пошліны складзе мінімум 130 тысяч рублёў, максімум — больш за 3 мільёны.

Спаганяць пошліну плануецца ў час праходжання ўладальнікамі аўтамабіляў тэхагляду.

Так што калі дэпутаты прымуць праект бюджэту на наступны год без змен, то аўтааматарам трэба рыхтаваць кашалькі...

ВОДГУК

## Ёсць у беларусаў «адзіны»

Да такой высновы я прыйшоў, прачытаўшы ў "Народнай Волі" артыкул старшыні Беларускага кангрэса дэмакратычных прафсаюзаў Аляксандра Ярашука "Песок — неважная замена овсу".

Знайшоўся адзін прыстойны чалавек, і на гэтым можна супакоіцца. Даўно прыглядаюся да яго. Розныя меркаванні ў мяне былі наконт яго.

Пра станоўчыя якасці гэтага чалавека можна меркаваць хоць бы па тым, што падчас апошніх прэзідэнцкіх выбараў у яго хапіла разважлівасці, каб не трапіць у тую смярдзючую багну, якая маральна засмактала, згубіла многіх, на выгляд нібыта прыстойных, але згубіўшых здаровае мысленне людзей.

Прыгледзеўшыся да яго з усіх бакоў, прыходжу да высновы, што ён, Аляксандр Ярашук, можа быць кіраўніком дзяржавы, якая разбураецца на вачах. За яго плячыма — вялікі вопыт адміністрацыйна-кіруючай работы ў выканаўчай уладзе і ў прафсаюзнай галіне. А галоўнае — яго сумленне, што на гэты раз выразна бачна са згаданай ягонай публікацыі ў газеце. Упэўнены, што пры ім, калі стане Прэзідэнтам (з вялікай літары), будзе, як у Кастуся Каліноўскага — не народ для ўлады, а ўлада для народа!..

Што тычыцца ягонай публікацыі, дык не магу нацешыцца, як ён па-майстэрску, наглядна намаляваў тэатр абсурду, які вось ужо амаль 20 гадоў дае прадстаўленні перад нашымі вачыма. На жаль, перад заплюшчанымі вачыма. І добра, што А.Ярашук імкнецца дапамагчы нам расплюшчыць іх.

Толькі з расплюшчанымі вачыма мы прыйдзем да разумення, як трэба нам жыць і працаваць, будаваць незалежную Беларусь, якая будзе жыць у стагоддзях.

Закончу тым, з чаго пачаў. У нас, нарэшце, выявіўся адзін надзейны кандыдат у прэзідэнты і "адзінага" нам цяпер не трэба. Напакутаваліся з імі, "адзінымі", у мінулым і хопіць! Наступаць яшчэ раз на тыя ж граблі — згуба...

**Міхаіл ЖУКАЎ,**
**ветэран працы**
**савецкага часу.**

*г.Баранавічы.*

## Нужен лидер

Что надо делать?

Хочу и я сказать свое слово.

Для того, чтобы оживить демократическое движение в стране, я считаю, нам нужен новый лидер. Поэтому призываю всех представителей демократических сил искать нового лидера. Если из мужчин такой не найдется, то давайте найдем свою белорусскую Тэтчер.

В критические моменты истории народ всегда хочет видеть нового человека.

**Андрей ИВАНЦОВ.**

*г.Орша.*

РЭЗАНАНС

# Спадар Бабарыка мог бы прапанаваць маскоўскаму начальству...

*У "Народнай Волі" за 9 лістапада змешчана гутарка са старшынёй праўлення "Белгазпрамбанка" В.Д.Бабарыкам. У ёй закранута тэма зносу аўтавакзала "Маскоўскі" і будаўніцтва на яго месцы вежы "Газпрома".*

На пытанне журналіста інтэрв'юіруемы адказаў няўцямна. Я ж лічу, што добра было б, калі б спадар Бабарыка прапанаваў маскоўскаму начальству перанесці будаўніцтва мінскага хмарачоса з пляцоўкі аўтавакзала "Маскоўскі" на адзін са свабодных участкаў на вуліцы Прытыцкага, побач з "Белгазпрамбанкам", альбо ў іншае месца.

Будаўніцтва вежы "Газпрома" на месцы аўтавакзала "Маскоўскі" супярэчыць інтарэсам жыхароў не толькі сталічнага мікрараёна "Усход", праспекта Незалежнасці і вуліцы Філімонава, але і ўсіх астатніх мінчан.

І калі толькі мы перастанем закопваць у зямлю мільярды рублёў? Архітэктурны ансамбль аўтавакзала "Маскоўскі" ўзводзіўся за народныя грошы, прычым зусім нядаўна. Чаму сёння ніхто з тых, хто пры ўладзе, не лічыцца з голасам таго ж самага народа?

**Іван ЯФІМЕНКА.**

*Мінск.*

ПРАБЛЕМА!

# Каму трэба больш плаціць — амапаўцу ці выхавацельніцы?

Шаноўная рэдакцыя газеты, якой я давяраю і чытачом якой шмат гадоў з'яўляюся! Дзякуй вам за вялікую, шматгадовую, плённую працу! Толькі праз "Народную Волю" я магу даведацца аб сапраўдных падзеях, што адбываюцца ў краіне і свеце, і хачу зазначыць, што праўду ніколі і нікому не ўдасца знішчыць, а за хлусню рана ці позна кожны сам адкажа перад Богам незалежна ад таго, хоча ён ці не хоча, верыць ён ці не верыць.

Шмат пра што хацеў бы напісаць і падзяліцца з вамі і вашымі чытачамі сваімі меркаваннямі, аднак усё адразу не выкажаш.

Мяне надта хвалюе адна вельмі сур'ёзная і актуальная, на мой погляд, тэма. У многіх з нас падрастаюць дзеці, і мы, бацькі, хацелі б бачыць іх шчаслівымі, свабоднымі людзьмі.

Калісьці высокі начальнік казаў: "Рожайте детей, я помогу". А што мы бачым на самай справе? Памер дапамогі на дзіця да трох гадоў мізэрны, пры гэтым чыноўнікі не тлумачаць, на якія грошы і за чый кошт трэба жыць самой маці, якая нарадзіла дзіця. Чаму ў іншых краінах, якія так любяць ганьбіць "вешчуны" ад улады, маці, што нарадзіла дзіця, па месцы працы, адкуль жанчына сышла ў дэкрэтны адпачынак, кожны месяц плацяць сярэдні заробак?

Па-другое, на мой розум, каб падняць узровень нараджальнасці ў краіне, трэба **ўсім** маладым сем'ям прадаставіць магчымасць узяць у банку льготны крэдыт ці то для будаўніцтва жылля, ці то для пакупкі жылля б/у. А што насамрэч адбываецца? Як маладым бацькам, няўпэўненым у заўтрашнім дні, не маючы свайго жылля, разлічваючы сёння на дапамогу з боку сваіх бацькоў (бабуль і дзядуль), клапаціцца пра ўзровень нараджальнасці ў Беларусі? Ехаць на заробкі ў іншыя краіны?

І, мабыць, галоўнае: нашы дзеці ў дзіцячых садках і школах. Пастаянныя "паборы" з бацькоў: то на рамонт, то на цацкі, падручнікі. Дайшло да таго, што з дашкалят праз бацькоў збіраюць грошы ў так званы "Фонд мира" ці нават для патрэб "Общества Красного Креста и Полумесяца". Магчыма, "разумныя" галовы ў хуткім часе дадумаюцца браць грошы з немаўлят, скажам, за тое, што яны дыхаюць забруджаным паветрам? Заробкі ў выхавацеляў і іх памочнікаў у дзіцячых садках (і ў настаўнікаў таксама) ну проста смешныя. (Цікава, ці махалі б дубінкамі амапаўцы, абараняючы ўладу, за такія грошы?) Вопытныя спецыялісты ў галіне дзіцячых душ сыходзяць адтуль, знаходзячы іншым разам больш прыбытковую і менш нервовую працу. Ужо сёння адчуваецца недахоп кадраў, асабліва вопытных. "Дзіркі" ў кадравай праблеме "затыкаюць" студэнтамі ўніверсітэтаў, якія, магчыма, і любяць дзяцей, але не маюць ніякага вопыту работы з дзецьмі.

Я задаю сабе пытанне "Дзеля чаго гэтак робіцца?", і да мяне прыходзяць розныя думкі, здагадкі. Можа, уладныя структуры лічаць, што дзяржаве не патрэбны разумныя, адукаваныя, таленавітыя дзеці, бо імі цяжка будзе потым кіраваць? Можа, дзецям большасці насельніцтва нашай краіны загадзя рыхтуюць долю паслухмяных выканаўцаў загадаў, "абслугоўваючага персаналу" для дзяцей "эліты", што зараз знаходзяцца ў платных дзіцячых садках Мінска, а потым паедуць вучыцца ў заходнія краіны, якія так любяць аплёўваць штатныя ідэолагі?

Мне хочацца памыліцца ў сваіх здагадках, але, на маю думку, у адваротным выпадку прадстаўнікі адукацыі не пляліся б у хвасце рэйтынгу заработнай платы, а атрымлівалі б заробкі ніяк не меншыя, скажам, за амапаўцаў ці хакеістаў.

Клопат пра дзяцей (падкрэсліваю: пра **ўсіх** дзяцей краіны) павінен быць стратэгічным накірункам дзейнасці для любой дзяржавы, улады, якая дбае пра **СВОЙ** народ, пра **СВОЙ** этнас, а не служыць чужым інтарэсам, якая жыве не настальгіяй па пазаўчарашнім дні, а глядзіць у **БУДУЧЫНЮ.**

**Алесь РЫМАРУК.**

*г.Баранавічы.*

СИТУАЦИЯ

## Трусы и патриоты

Уважаемая редакция!

Хочу через вашу газету выразить благодарность своему земляку, гомельчанину Юрию Рубцову за его патриотический (не боюсь этого слова) поступок.

Надеть майку с таким протестом против его величества Лукашенко не каждый осмелится. Вначале мы хохотали от души, глядя на простодушное лицо Юрия и его майку. А потом подумали: вот бы в такие майки одеть всех белорусов в предвыборное время! Может, тогда у нашего президента проснулась бы человеческая совесть (если она у него есть) и он не выдвинул бы свою кандидатуру кандидатом на такой высокий пост? А параллельно изготовить майки с призывом "Ермошину — под суд!". А то она чувствует себя очень вольготно.

И чем же провинился наш бедный народ за свою несчастную долю?

**Гомельчанка,**
**пенсионерка 74-х лет.**

**P.S.** *Воздержусь нарисовать свою фамилию. Моим детям еще до пенсии доработать надо.*

ПО ПОВОДУ

## По диплому ли чин?

Мы все уже привыкли к громким отставкам чиновников разного ранга. Но почему такие скандалы стали частыми? Потому что ущербна сама система. Хочу пояснить, что я имею в виду.

Я знаю государственный завод, где все основные должности заняты одной семьей: директор, начальник технического отдела, начальник производства, заведующий складом. Но завод работает, все нормально. А дело в том, что у всех этих людей высшее образование, занимаемые должности соответствуют профилю диплома, на совещаниях они разговаривают на понятном им техническом языке.

В то же время когда-то я в специальном блокноте помечал кадровые назначения Александра Лукашенко и соответствие полученной должности образованию кандидатов. Часто просто поражался несоответствию! Теперь я эту работу закинул, но "Народной Воле", думаю, о каждом пересаженном в новое кресло чиновнике (особенно когда это сделано во всеуслышание) следует рассказывать подробнее, указывать профиль его образования, кто назначал его на эту должность. Потому что часто получается, что деятеля такого назначат, а он ни ухом, ни рылом в этой сфере, но и отказаться не отважился!

Вот так и получается, что новое оборудование не поместилось в цех, что под видом новой закупили устаревшую технологию, что все ходят друг за другом, суетятся, а сделать толком ничего не могут.

**Ю.А.СЕЛЬВАНОВИЧ.**

*г.Лида.*

СПАСИБО!

# Благословенна земля под Вами...

Я старая подписчица-почитательница вашей газеты, правдиво освещающей жизнь моей Родины — Беларуси. "Народная Воля" для меня — живая струя воздуха. Ваши публикации, нередко грустные, меня очень волнуют. Болезненно переживаю из-за многого, что вижу вокруг и что фактически подтверждают многие читатели.

Признаюсь, я очень далека от политики, в ней не разбираюсь, но сердцем сочувствую невинным страдальцам, до сих пор находящимся в изоляции, в тюрьмах и колониях. Очень жду и надеюсь на скорейшее освобождение всех-всех и полной их реабилитации — ведь они страдают без вины перед своей страной.

Что такое незаслуженное наказание, знаю по себе, ибо являюсь одной из бесчисленных жертв сталинских репрессий. Судил меня, шутка ли сказать, Военный трибунал СССР в военное время, судил как "врага народа" — "за измену Родине"... Шел мне тогда, в начале той страшной войны, 22-й год...

Что же я натворила? — резонно спросите вы. Судите сами. Жила до войны в небольшом городке Клинцы на Брянщине, была активной, ретивой комсомолкой, заводилой молодежных дел. Грянула война — естественно, сразу же попросилась на фронт и вскоре там оказалась. Правда, провоевала, учась всему на ходу, всего три месяца.

Известно не только мне, каким трагическим был 1941-й. Красная Армия с боями была вынуждена отступать. Наша часть оказалась на территории Курской области. После очередной тяжелой стычки с наседавшими немцами часть рассыпалась по окрестному лесу, и я, еще недавно маменькина дочка, очутилась одна в глухой чащобе. Искала своих, тыкалась наугад туда и сюда, и неожиданно попалась в лапы к немцам... Удивляюсь, как меня, девчонку в красноармейской форме, не расстреляли на месте. Видимо, не разобрали мою национальность — и "просто" бросили в тюрьму, стали выжимать из меня "секреты". Да не знала я никаких секретов! Со дня на день ожидала расстрела, и мысли об одном терзали и терзали: надо же, провоевала всего ничего, и толку от меня стране не вышло... А воевать с гадами, выходит, освобождать нашу землю (в победу над Гитлером верила с самого начала) будут другие? Будут немыслимой ценой — ценой своих жизней. А я? Так нелепо все обрывается, разве что чудо какое... Но я, комсомолка, в чудеса не верю.

А оно все же случилось! Населенные пункты так просто наши не сдавали, отбили-таки захваченный фашистами городок, открыли ворота тюрьмы. Ура! Теперь-то найду, наконец, свою поредевшую часть и буду усердно постигать суровую военную науку, не говоря уже об умении ориентироваться в незнакомом лесу...

Но не тут-то было. Из одной тюрьмы я попадаю в другую, уже советскую, меня сурово осудил высокий суд и повесил на меня клеймо "изменница Родины". И вновь странно: почему-то не расстреляли, а после мучительных и бесплодных допросов вновь бросили за решетку, затем — в проклятый миллионами ГУЛАГ, на Крайний Север.

...Когда мне сказали, что я могу вернуться домой, то не удержалась, спросила: а бумага о том, что я ни в чем не виновата, есть? "Вот с этим сложнее", — сурово сказали мне. Полной реабилитации я смогла добиться только в 1992 году, когда внимательно изучили материалы моего дела. Мне было уже за 70. Стала старая, немощная. У меня украли целую жизнь!

Вы, конечно, понимаете, сколько всякого мне довелось изведать за долгие-долгие годы. И если я еще жива, то во многом благодаря поддержке, пониманию и теплоте добрых людей, которых довелось встретить и которые, что бы там ни говорили, не перевелись, слава Богу, и в наши дни. Чаще всего они — некрикливые, скромные, их, увы, часто не замечают, о них не говорят. А напрасно. Это же несправедливо! Я помню всех-всех, благословляю память о них.

Одна из таких, кого, пользуясь случаем, хочу публично поблагодарить через газету, это моя бывшая патронажная сестра Инна Ивановна Довнар, которая приходила ко мне по линии помощи инвалидам и престарелым от еврейской общины "Хэсед Рахамим". Опекала не просто как служебное лицо, а и добрый, душевный друг, одаривала теплотой щедрого сердца. Разве такое забудется? Теперь Инна Ивановна вернулась на свое педагогическое поприще, и я верю, знаю: ее, конечно же, очень любят и дети, и их родители, радуются, что им посчастливилось встретить такую наставницу. Долгих лет ей, здоровья и счастья!

"Спасибо за то, что Вы есть", — говорю доброй фее, заступившей на место Инны Довнар, — милой женщине Светлане Васильевне Демедчик. Она старается быть похожей на свою замечательную предшественницу — о ней много слышит от меня.

И ей, и всем неравнодушным, отзывчивым людям, которые принимают чужую боль как собственную, не жалеют душевных и физических сил, чтобы обогреть тех, кому без этого просто не выжить, желаю добра и мира, радости и нежной заботы от детей и внуков! Благословенна земля, по которой вы ходите, и ответное тепло встреченных, но не оставленных вами — бесценное богатство, которое никому не отнять и не купить за деньги, даже самые большие...

**Фрида Моисеевна**
**ИДЕАЛЬЧИК,**
**93 года.**

